Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# Рэгіянальная газета

14 - 20 ЖНІЎНЯ 1998 ГОДА
ІНФАРМАЦЫЙНА-РЭКЛАМНАЕ ВЫДАННЕ
ЦАНА 4000 РУБЛЁЎ
№33 (173)

## АДНА ЗЯМЛЯ

**ВІЛЕЙКА**

## Дошка аб'яў

У найбольш людных месцах (аўтобусныя прыпынкі, магазіны) з'явіліся дошкі для прыватных аб'яў. Цяпер аркушыкі з пасланнямі народу не будуць псаваць выгляд будынкаў і агароджаў.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

**ВАЛОЖЫН**

## Гаротныя качкі

У распачатым сезоне палявання адбыліся змяненні. Аматары папаляваць на дзікіх качак могуць гэта рабіць з 17 гадзін пятніцы і да змяркання ў панядзелак. Раней паляванне было дазволена толькі па выхадных.

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

**МАЛАДЗЕЧНА**

## Трупярню абсталююць маразілкай

Мясцовы морг пераедзе на вуліцу Янкі Купалы, 50, у будынак былога тубдыспансера.

Пакуль збіраюцца неабходныя паперы для перабудавання памяшканняў. Кошт такіх работ каля 4–5 мільярдаў. У моргу плануецца выкарыстанне маразільных камер.

*Аддзел інфармацыі.*

**АШМЯНЫ**

## Шляхі вядуць у Расію

Каб захаваць завод і спецыялістаў, у ААТ "Радыётэхніка", якое раней уваходзіла ў «абаронку», перакваліфікаваліся выключна на мірныя тавары. Закатачныя машынкі, электрычныя вентылятары, святлотэхнічная прадукцыя наа складах яна не залежваецца.

Нядаўна ашмянцы знайшлі збыт сваёй прадукцыі на расійскім рынку. Крамы Санкт–Пецярбурга, Смаленска і Краснадара з ахвотай набываюць прадукцыю на "Радыётэхнікі". Цяпер ашмянцы рыхтуюць да выпуску прамысловую закатку і магнітны замок.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

**ВІЛЕЙКА**

## Вада з хлебазавода

Вілейскі хлебазавод асвоіў выпуск газіраванай вады. Ваду з утрыманнем натуральнага фтору бяруць з артэзіянскай свідравіны каля горада. Цяпер вілейчанам не пагражае карыес.

*Ігар КІЦІКАЎ.*

**ВАЛОЖЫН**

## "Вясёлка" супраць "Роксаў"

Мясцовыя кандытары з Івянца аднавілі выпуск некалі папулярных цукерак – лімонна–апельсінавых лупінак. А яшчэ, на радасць дзятве, у асартыменце будзе "Вясёлка". Менавіта яна, як лічаць на прадпрыемстве, складзе канкурэнцыю "Роксам", круглай штучнай карамелі з малюнкам. Бо "Вясёлка" і "Роксы" нечым падобныя.

*Ларыса КАРНЕЕВА.*

**СМАРГОНЬ**

## Школа - у былой кавярні

Чатыры разы запар на мясцовых аўкцыёнах на продаж выстаўлялася дзіцячая кавярня "Казка", але яе ніхто не купляў. Магчыма, сказалася тое, што яна знаходзілася ў гарадскім парку і побач з касцёлам. На нядаўнім аўкцыёне яе за 192 мільёны рублёў купілі парафіяне касцёла Святога Міхаіла Архангела. І пасля таго, як у будынку будзе зроблены рамонт і добраўпарадкавана прылягаючая тэрыторыя, былая кавярня ператворыцца ў нядзельную школу.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

**ВАЛОЖЫН**

## Грошы не выкінулі на вецер

Набыццё новай тэхнікі цяпер расцэньваецца як значная падзея, тым больш, калі навінка адносіцца да разраду "супер". Нядаўна менавіта такую пакупку ажыццявіў валожынскі аўтапарк №14.

Вялікагрузных аўтамабіляў, адзін з якіх займелі валожынскія аўтатранспартнікі, усяго толькі чатыры ў вобласці. Выкарыстоўваць грузавік нямецкай вытворчасці плануецца на маршрутах, пракладзеных у далёкае і блізкае замежжа. Руль новай супермашыны даверany вадзіцелю **П. Вашкевічу**.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

**ВІЛЕЙКА**

## Будаўнікі на вышыні

Абласны семінар прайшоў на базе ПМК №186. Кіраўнікі арганізацый наведалі новы будынак СШ №5, будпляцоўку 60–кватэрнага дома. Адзначаны высокі прафесіяналізм мясцовых будаўнікоў.

*Вольга КІРЭЕВА.*

**ВАЛОЖЫН**

## Заваёўваюць пакупніка

Трэці від камплектаў мяккай мэблі асвоены на мясцовым ільнокамбінаце. Гэта не азначае, што папярэднія тут спісалі ў нябыт. Прадукцыя льнокамбінатаўскіх майстроў па–ранейшым карыстаецца ўстойлівым попытам на рынку збыту. Новы камплект, што атрымаў назву "Утульнасць", прываблівае сваім дызайнам, якасцю і прыгажосцю матэрыялаў, якія выкарыстоўваюцца для вырабу мэблі.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

**ВАЛОЖЫН**

## Попыт на падковы ёсць

Развіццём конегадоўлі ўсур'ёз заняліся ў калгасе імя Леніна. Тут арыентуюцца на развядзенне чатырохногіх памочнікаў цяглавых парод. Два гады таму закупілі "рускіх цяжкавозаў". Сёлета з'явілася пагалоўе маладняку – прыбаўленне ў табуне склала 12 галоў.

Набірае сілу развядзенне спартыўнай пароды. Абжывае стойлы на ферме "Макараўка" конь пароды "латвійская вупражная" - жарабец Данга. Каштуе гэты жывы тавар вялікіх грошай, але ў гаспадарцы спадзяюцца, што ў перспектыве можна будзе паспяхова рэалізоўваць гадаванцаў і шматкроць кампенсаваць ранейшыя расходы. А новы манеж стане базай для трэніровак аматараў коннага спорту.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

*ЖНІВЕНЬ*

# Налівай бензін, вадзіцель!



Чэргі за бензінам выцягваюцца на кіламетры. На ўездзе ў Маладзечна з боку Мінска.

***МАЛАДЗЕЧНА. Жнівень-пара бензінавых чэргаў. Сёлета не выключэнне. Каля двух тыдняў на запраўках «Белнафтапрадукта» перабоі з палівам. На прыватных АЗС таксама часам няма бензіну. Калі ён ёсць - умомант вырастаюць чэргі, якія можна мераць на кіламетры.***




На нет и суда нет... На АЗС «Белнафтапрадукта»

Як нам паведамілі ў "Маладзечнанафтапрадукце", прагнозы і надалей сумныя: паліва маркі 95 адсутнічае, з 92-м цяжка, 76-ы на ўсю моц выкарыстоўваецца на сельгасработах. Толькі з саляркай праблемаў пакуль не ўзнікае.

Па горадзе (толькі па «Маладзечнанафтапрадукту») сутачная патрэбнасць у 76–м каля 40 тысяч літраў. Акрамя гэтага, бензавозамі гаручае вывозяць па арганізацыях для запраўкі ведамаснага транспарту. Размяркоўвае бензін па рэспубліцы канцэрн "Белнафтахім". Сёння ён не можа задаволіць патрэбнасці гарадоў. Таму, як лічаць спецыялісты, уступіла правіла "каромысла" – адзін раз горад атрымае бензін у дастатку, а ў наступны – толькі на прамысловыя патрэбы. Таму і чэргі за ім у гарадах стануць з'явай звычайнай. Маладзечанцам можна параіць запраўляцца ў Вілейцы. Збояў з бензінам там пакуль не прадбачыцца.



А мне бензін не патрэбны.

ФОТА АЛЯКСАНДРА МАНЦЭВІЧА.

*Васіль САВІЦКІ.*

## Праблемы самагоншчыкаў скончацца у верасні

АШМЯНЫ. Каторы тыдзень, як зазначыла ў гутарцы галоўны інжынер дрождзжавода **Галіна Маркоўская**, ідзе рамонт заводскага абсталявання. Гэта, натуральна, пацягнула за сабой спыненне вытворчасці дражджэй, бо ўсе працаўнікі занятыя выкананнем рамонтных работ, якія працягнуцца да верасня.

Не салодка прыходзіцца і хлебазаводам, якія з'яўляюцца ў дрожзавода асноўнымі пакупнікамі. Дрожджы цяпер яны прывозяць з Мінска. Яшчэ куды горш стала мясцовым самагоншчыкам, бо практычна стратэгічны прадукт для вырабу "зялёнага змея" адсутнічае ў продажы, а калі з'яўляецца на мясцовым рынку, то кошт дасягае ста тысячаў рублёў. Іх надзеі звязаныя з вераснем.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

*ПРАБЛЕМА*

# Самазабойцаў не меншае

Праблему суіцыдаў (калі чалавек ідзе з жыцця па ўласным жаданні) вывучаць пачалі толькі апошнім часам. Былі спробы ў былым Саюзе, за мяжой. Аднак ад нейкіх даследаванняў адмовіліся, бо суіцыды прагнозам не паддаюцца. Узятыя выбарачна паказчыкі за мінулыя гады адлюстроўваюць тыповую сітуацыю па мінскай частцы рэгіёна.

***Колькасць выпадкаў/ з іх у нецвярозым стане***

| ГОРАД | 94г. | | 95г. | |
|---|---|---|---|---|
| | усяго | у нецвярозым стане | усяго | у нецвярозым стане |
| МАЛАДЗЕЧНА | 66 | 44 | 60 | 40 |
| ВІЛЕЙКА | 19 | 12 | 16 | 5 |
| ВАЛОЖЫН | 19 | 13 | 11 | 10 |
| МЯДЗЕЛ | 5 | 4 | 2 | 2 |

- УСЯГО
- У НЕЦВЯРОЗЫМ СТАНЕ




Як адзначыў загадчык дзяржаўнай службы судовай медыцынскай экспертызы ў Маладзечне **Георгій Будо**, з жыцця ідзе даволі многа дзяцей і падлеткаў. Ёсць людзі з парушанай псіхікай.

Прыкладам, у вёсцы Кучкі Маладзечанскага раёна мужчына тройчы за дзень імкнуўся пайсці з жыцця. Спачатку спрабаваў тыцнуць нож у сэрца. Потым вешаўся, але парвалася вяроўка. Урэшце, калі родная сястра везла яго ў псіханеўралагічны дыспансер, ускочыў пад грузавік.

Самазабойцы найчасцей выкарыстоўваюць пятлю. Эксперты не могуць сцвярджаць, што чалавек перажывае моцны балявы шок – на целе гэта не адлюстравана. У практыцы быў такі выпадак.

Муж з жонкаю часцяком сварыліся. Гаспадар вырашыў імітаваць самазабойства. Замацаваў рэмень на спінцы ложка і, калі ўваходзіла жонка, хуценька ўсунуў у пятлю галаву, падцягнуў ногі. Як потым успамінаў, "у роце стала салодка–салодка. І страціў прытомнасць".

*Васіль САВІЦКІ.*

## Санэпід інфармуе

■ МАЛАДЗЕЧНА. За першы тыдзень жніўня зарэгістраваны 31 выпадак захворванняў вострымі кішэчнымі інфекцыямі (па горадзе 11 дзяцей і 12 дарослых, па раёне 3 дзяцей і 5 дарослых). Большасць з гаспіталізаваных звязваюць сваё захворванне з ужываннем гародніны і салатаў (11), а таксама малочных прадуктаў дамашняга прыгатавання (7). Таму не лішнім будзе нагадаць пра неабходнасць мыцця гародніны пры ўжыванні і прыгатаванні салатаў, а таксама мыцця рук, захавання правілаў прыгатавання і захоўвання малочных прадуктаў. Пры куплі на рынку і ў дробнарознічным гандлі гародніны і садавіны, пакупнікі маюць права патрабаваць наяўнасць сертыфіката, які пацвярджае паходжанне і якасць прадукцыі.

■ У лабараторыях РЦГіЭ даследавана 70 проб харчовых прадуктаў па бактэрыялагічных і 34 па хімічных паказчыках бяспечнасці, 44 пробы гародніны і садавіны на ўтрыманне нітратаў, усе пробы адпавядалі дапушчальным нормам.

■ Даследавана 69 пробаў па бакпаказчыках і 34 па хімпаказчыках вады, з іх 24 пробы з развадзяшчай водаправоднай сеткі горада адпавядалі нарматывам, з 7 пробаў вады артсвідравінаў 2 не адпавядалі паказчыкам колернасці і ўтрыманню жалеза ў в. Пруды і в. Мароські. Усе даследаваныя пробы вады з шахтавых калодзежаў (г. Маладзечна – 3 пробы), в. Пранчэйкава – 3 пробы, в. Селеўцы – 3 пробы, не адпавядалі нарматывам па бактэрыялагічных паказчыках бяспечнасці, утрыманню нітратаў, што сведчыць пра інтэнсіўнае арганічнае забруджванне. Прычынай гэтаму служыць незадавальняючая ступень добраўпарадкавання шахтавых калодзежаў і іх неабароненасць ад пападання паверхневых грунтавых вод, у цяперашніх неспрыяльных пагодных умовах. Неабходна праводзіць не радзей за 2 разы на год ачыстку і дэзінфекцыю калодзежаў, ужываць для пітных мэтаў толькі папярэдне пракіпячоную ваду.

■ На утрыманне радыенуклідаў даследавана 44 узоры прадуктаў, з іх 6 проб з перавышэннем РДУ–96: грыбы курачкі з раёна в. в. Чарчонава, Плёсы, Камары (Вілейскі р–н), грыбы вараныя (збор) в. Даманава і сушаныя баравікі з Мазырскага р–на.

*Віктар БЕЛІК, галоўны ўрач Маладзечанскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі.*

СТАРЫ АЛЬБОМ



# Ехаў дзядзька на кірмаш...

У мінулым цярпеў Мядзел і ад хвароб, і ад пажараў, і ад бездарожжа. Вуліцы былі незабрукаваныя, коні ледзь цягнулі павозкі праз калдобіны.

У 20–х і 30–х гадах улады арыгінальным спосабам вырашылі забрукаваць вуліцы мястэчка. Было аб'яўлена: хто едзе на кірмаш (кожны чацвер), павінен прывозіць у Мядзел пэўную колькасць камянёў. Сяляне так і рабілі, бо гэтага матэрыялу хапала на вузкіх палосках. Памешчыкі, асаднікі, шляхціцы, чыноўнікі лічылі для сябе зняважлівым збіраць і везці каменне. А таму пры ўездзе ў Мядзел у кірмашовы дзень плацілі грошы.

А калі накапіўся матэрыял і сродкі, пачалося брукаванне вуліц. Сярод местачкоўцаў знайшліся добрыя спецыялісты–мастаўшчыкі. **Баляслаў Пяркоўскі, Іван Загорскі, Альфонс Сухарукі, Андрэй Гараднічы** праяўлялі ўменне і спрыт. Кіраваў работамі майстар **Іван Місуна**. У мядзельскай гміне дарожны аддзел узначальваў Густаў Цандар, немец па нацыянальнасці (дарэчы, і пасля 17 верасня 1939 года, пры Савецкай уладзе, працягваў працаваць. У дарожным аддзеле за яго заступіліся камуністы–падпольшчыкі. Пасля прыходу гітлераўцаў Цандар выручыў ад расправы некаторых актывістаў, служачых. Праз некаторы час акупацыйныя ўлады адаслалі свайго суайчынніка ў Германію, і яго лёс невядомы).

Пасля вайны мядзельскія вуліцы расшыраліся, выпрамілiся, пакрыліся асфальтам. Уздоўж тратуараў пасаджаныя ліпы, каштаны, клёны.

*Міхаіл ЧАРНЯЎСКІ.*

*На здымку: брукуюць вуліцу Даўгінаўскую (цяпер 17 верасня).*

ФОТА З ФОНДАЎ МЯДЗЕЛЬСКАГА РАЁННАГА МУЗЕЯ НАРОДНАЙ СЛАВЫ.

КУЛЬТУРА

## У Чэрнікавай і Якіменкі магчымы саюз. Прафесійны

АСТРАВЕЦ. Аднаго разу мясцовы кампазітар і кіраўнік студыі "Музычная лесвіца" Аляксандр Якіменка слухаў інтэрв'ю вядомай "зоркі" расійскай эстрады Ларысы Чэрнікавай на адным з каналаў радыё. Там, акрамя адказаў на пытанні, спявачка прапанавала ўсім кампазітарам дасылаць свае песні для таго, каб затым лепшыя з іх уключыць у свой рэпертуар.

Аляксандр патэлефанаваў у Маскву ўдакладніць усе неабходныя нюансы і адправіў свае песні. Праз колькі месяцаў спявачка напісала, што некаторыя з песняў у перспектыве, магчыма, увойдуць у яе рэпертуар, а таксама падарыла фотаздымак з аўтографам.

*Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.*

КАНІКУЛЫ

## Вось і лета прайшло

***СМАРГОНЬ. У дзяцей з мнагадзетных і малазабяспечаных сем'яў Смаргоншчыны з'явілася магчымасць апошнія два тыдні летніх вакацый правесці ў дзіцячым летніку "Арляня", што недалёка ад Жодзішак.***

Летнік належыць прафсаюзу работнікаў сельскай гаспадаркі. Ён гатовы прыняць да ста дзяцей ад 6 да 14 год. Пуцёўкі аплачваюцца з бюджэтных сродкаў. Гаспадары абяцаюць высокакаларыйнае харчаванне і разнастайную забаўляльную праграму.

Шкада толькі, што сродкі знайшліся напрыканцы лета, і многія дзеці не змогуць прыняць гэты падарунак, бо напачатку новага навучальнага года і ў іх, і ў бацькоў шмат іншых праблемаў.

*Аддзел інфармацыі.*

## Да юбілею Міцкевіча

МІНСК. У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адкрылася выстаўка, прысвечаная 200-годдзю з дня нараджэння Адама Міцкевіча. У экспазіцыі прадстаўлены фатаграфіі з архіва Музея літаратуры імя Адама Міцкевіча ў Варшаве і дзевяць работ мінскага мастака Аляксандра Зубрыцкага. Серыя карцін «Беларусь міцкевічская», напісаная мастаком на працягу апошняга года, выяўляе гістарычныя месцы, звязаныя з жыццём і дзейнасцю вялікага паэта.

*Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.*

ЦАРКВА

## З імем Еўфрасінні

ІВЯНЕЦ. Тут узводзіцца Свята–Еўфрасіннеўская царква. Будаўніцтва наведаў мітрапаліт Філарэт.

Адбыўся і хрэсны ход у імя заступніцы і малітоўніцы прадстаўніцы Беларусі прападобнай святой Еўфрасінні Полацкай. У час хрэснага ходу прайшоў святочны малебен, а ў падмурак будучай царквы закладзеная капсула з асвячонай памятнай Граматай для нашчадкаў.

*Ірына ПАШКЕВІЧ.*

НА ПАРОЗЕ – ШКОЛА

# "Залаты фонд" з жалем раз'едзецца па дамах

ВАЛОЖЫН. "Сямёнаўна, дзеўка модная. Купіла гадзіннічак – сама галодная", – зацягнуў першакласнік **Віця Будневіч.** А начальнік летніка "Сонейка" наш калега з раённай «Працоўнай славы» **Наталля Сямёнаўна Штэйнер** на прыпеўку не пакрыўдзілася. Наадварот, пацалавала спевака, пачаставала цукеркай.

У "Сонейку", створаным на базе Вішнеўскай участковай бальніцы, па–сямейным цёпла, утульна і весела. Сям'я вялікая: 60 адпачываючых, медперсанал бальніцы, важатыя, сабака Лада са шчанятамі, кабылка Фрося. З дарослымі можна пазнаёміцца адразу на ўваходзе ў будынак. Дзеці намалявалі сяброўскія шаржы і падпісалі па прызначэнні. Больш за ўсіх дасталося выхаваццелю **Дзмітрыю Рэуту**, студэнту педуніверсітэта. Яму і пісталет за пояс уваткнулі, і цыгарэту ў рот уставілі.

Летнік узнік па ініцыятыве райвыканкома і галоўнага ўрача Вішнеўскай бальніцы **Людмілы Рубан**. Бальніца, разлічаная на 25 ложкаў, змясціла ў два з паловай разы больш. Амаль усім дзецям (90% з іх стаіць на дыспансерным уліку) патрэбна лячэнне. Тыя ж фізіяпрацэдуры. Харчуюцца ў летніку пяць разоў на дзень. Кошт пуцёўкі складаўся такім чынам – 250 тысяч плацілі бацькі, 400 тысяч арганізацыя, дзе яны працуюць. Астатнія грошы (2 мільёны) выдаткавала дзяржава. Аддзел адукацыі поўнасцю аплаціў ненатуральную вітамінізацыю. Акрамя сокаў, фруктаў набылі мультывітаміны "Джунглі" – самыя дарагія, але і самыя эфектыўныя.

Пра галоўнага ўрача Людмілу Уладзіміраўну гавораць так: "Вы цяпла ад сонейка ўзялі багата, а веды ад самога Гіпакрата". Акрамя таго, яна стала прафесіяналам і ў народнай медыцыне. Дома вырошчвае лячэбныя травы. На практыцы шырока выкарыстоўвае іх якасці. Вось і ў летніку два разы на дзень поіць дзяцей гэтай смакатой.

Калі дарослыя адказваюць за харчаванне, лячэнне, дысцыпліну, парадак, то дзеці не ўнікаюць у клопаты.

**Алена Пракопчык**, 9 кл. СШ №2 Валожына:

– Мы прыхапілі з дому будзільнікі. Ставім звычайна на 4 раніцы і ідзем пэцкаць пастай хлопцаў. Праўда, не заўсёды гэта атрымліваецца.

**Яўгенія Дамасевіч**, 8 кл., Валожынская гімназія:

– Дыскатэка праходзіць на 2 паверсе амбулаторыі, праз дарогу. Танчым да 23–00, 24–00 - як сябе паводзім. Заказваем "Крошку маю" – гурт "Рукі ўгору", "Вецер з мора дзьмуў" у выкананні Наталі.

**Начальнік летніка Наталля Штэйнер**:

– Штодзень праводзім мерапрыемствы: "Зорны час", конкурс эрудытаў... Учора нашы выйгралі ў мясцовых у футбол. Калі цёпла, купаемся ў рэчцы. Быў надта смешны ўжо выпадак: маці трэцякласніцы забараняла той наведваць дыскатэку. Бо там бывае цёмна.

Дзеці ў летніку калі не залаты фонд нацыі, то раёна абавязкова. Другакласніца **Вольга Шунтава** з Валожына заняла па шашках 2 месца. Абыграла 18 саппернікаў, нават 9–класнікаў.

Спартсмены **Дзмітрый Кавалеўскі, Сяргей Разанаў** прыдумалі спартыўнае практыкаванне – прысядаюць з падушкай на выцягнутых руках. Рыхтуюць сябе да гладыятарскіх паядынкаў.

Ад'езд з летніка – заўсёды слёзы. Здаецца, набылі сяброў на ўсё жыццё – і вось развітанне. А яшчэ шкада дзятве шчанят сабаку Ладу. Медыкі запэўнілі, што шчанят аддадуць у надзейныя рукі, а аднаго, можа, пакінуць і сабе. Каб на наступны год было з кім гуляць.

*Васіль САВІЦКІ.*

*Шчаняты Лады літаральна не злязаюць з рук і прыбаўляюць у вазе быццам тыя парсюкі.*



*Саша Кураш папрасіў маці прывезці акардэон. Увечары на ганку збіраюцца аматары паспяваць.*

ФОТА ВАСІЛЯ САВІЦКАГА.

ЗАПРАШАЮЦЬ НАВУЧАЛЬНЫЯ УСТАНОВЫ

САПРАЎДНАЯ АМЕРЫКА

# Welcome to Iowa

*Працяг. Пачатак у №№ 8-32.*

## Царква і грамадства

Айцец Пётр расказаў, што пры заснаванні царквы яна была домам, прытулкам для эмігрантаў, стала іхнім "адвакатам"; людзі тут адчувалі сябе спакойна і ўпэўнена. Царква і не імкнулася рабіць вялікія праекты ў грамадстве. Службы адразу вяліся, у асноўным, на англійскай мове, хаця прысутнічала і грэчаская.

Цяпер сітуацыя мяняецца – прыходзяць дзеці эмігрантаў "са зменепай псіхалогіяй" – прытулак ужо не актуальны (хаця прыезджым дапамогу аказваюць – дакументы, дазволы, работа). Цяпер акцэнт робіцца на "выхад у народ".

Шмат царква працуе з бяздомнымі. Гэта яшчэ адно кардынальнае адрозненне ад прывычных для нас паняццяў пра святароў і храмы: замест заклікаў да пакаяння і паслухмянасці тут аказваюць дапамогу. З прыхаджанаў тут не бяруць, а больш даюць ім.

Праграмы дзейнасці царквы па выкананні сумяшчальныя з іншымі. Прыкладам, шпіталь Дэ Мойна звярнуўся па дапамогу адначасова да праваслаўных і католікаў адначасова. Ідзе сумесная з недзяржаўнымі арганізацыямі работа, скіраваная на алкаголікаў і наркаманаў. Падрыхтаваная брашура "Парады для жанчын у цяжкіх жыццёвых сітуацыях".

Да прыхаджанаў святары звяртаюцца хіба толькі так:

– Вы можаце дапамагчы...

Не царкве, а канкрэтным людзям. Наогул, айцец Пётр заўважыў, што яны адначасова ўдзельнічаюць у паўтара дзесятках праектах дапамогі людзям. Дапамагаюць прадуктамі, плацяць бацькам, каб тыя маглі наймаць работнікаў па догляду за дзецьмі.

Бываюць і "праколы". Прыйшоў хлопец, сказаў, што ў суседнім штаце бабуля памерла, папрасіў 20 долараў на бензін. Пазней аказалася, што гэта наркаман. У нас такая сітуацыя немагчымая ў прынцыпе – цяжка ўявіць святарніка, які б даў грошы, ды яшчэ незнаёмаму чалавеку.

Дарэчы, для каардынацыі дзеянняў рэлігійных арганізацый створаны савет цэркваў. Уваходзяць у яго не ўсе, прадстаўнікі прыкладна 60% усіх храмаў, канфесій. Прычын шмат, асноўная – адрозненні ў вучэнні.

***Дзмітрый ХАРЫТОНАЎ.***

БАЗАРНЫ ДЗЕНЬ

**МАЛАДЗЕЧНА.** Цэны на прадукты харчавання ў сераду на рынку:

| ПРАДУКТЫ | | ЦАНА (ТЫС. РУБ.) | |
|---|---|---|---|
| | | 5.08 | 12.08 |
| Курыныя кумпячкі | 1 кг | 105,8 | **107,3** |
| Кілбаса сыравэндж. | 1 кг | 370 | - |
| Сасіскі свіныя | 1 кг | 98,2 | - |
| Селядзец салёны | 1 кг | 50 | **50** |
| Рыс | 1 кг | 32,5 | **40** |
| Цукар | 1 кг | 28,8 | **28,3** |
| Грэчка | 1 кг | 35 | **35** |
| Алей | 1 л | 75 | **75** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 25,5 | **25,5** |
| Маянэз | 250 г | 25 | **25** |
| Кава "Пеле" | 100 г | 76 | **75** |
| Шпроты, бляшанка | 160 г | 28 | **27** |
| Соус там. "Мінскі" | 0,5 л | 33 | **33** |
| Лімоны | 1кг | 74 | **74** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | |
| Смятана | 1 л | 50 | **40** |
| Масла | 1 кг | 100 | **100** |
| Тварог | 1 кг | 30 | **25** |
| Малако | 1 л | 9 | **9** |
| Бульба свежая | 1 кг | 10 | **10** |
| Яйкі курыныя | 1 дзес. | 30 | **30** |

***Падрыхтаваў Алег ГУЛЕЦКІ.***

## Ждановічы, 10 жніўня (руб./кг)

Памідоры .......... 45000
Агуркі ............... 15000
Морква .............. 23000
Перац ................ 45000
Капуста ............. 12000
Кабачкі ............. 13000
Баклажаны ....... 40000

***Ігар КІЦІКАЎ.***

## Абмыем!

***ВІЛЕЙКА. Магазін №7 (ён жа стары ўнівермаг па вуліцы Савецкай) сумеснага прадпрыемства "Кантыненталь" прапануе любому жадаючаму абмыць пакупку.***

На касе прадаецца ў пластыкавых 100–грамовых шкляначках Слонімская Арыгінальная па 11400, тут жа можна набыць закуску – пячэнне "Янтарнае" і "Васілёк".

***Ігар КІЦІКАЎ.***

ЗДАРЭННІ

# П'яны ўрач забіў не толькі дзіця,

## але і надзею на шчасце ў яго бацькоў

***АСТРАВЕЦ. Майскім днём загадчык кардыялагічнага аддзялення мясцовай райбальніцы Генадзь Руновіч разам з калегамі вяртаўся на аўтамабілі з Ашмянаў. Пераатэстацыя прайшла на выдатна, адзначылі - распілі бутэльку гарэлкі, і кожны з кампаніі накіраваўся па сваіх справах.***

Руновіч вярнуўся дамоў і пачаў займацца хатнімі справамі. Калі стрэлкі гадзінніка наблізіліся да сямі вечара, ён на аўтамабілі «БМВ-524» накіраваўся ў гараж. Ехаць праз цэнтр не рызыкнуў, бо выпітыя 150 грамаў гарэлкі маглі згуляць не на яго карысць. Таму шлях ляжаў праз вуліцу Школьную. У гэты час там апынулася разам са сваім двухгадовым сынам Алена С. На вялікай хуткасці аўтамабіль наехаў на іх. Алену ад удару адкінула ўбок, але дзіця апынулася пад машынай. Праз некалькі хвілін яго даставілі ў бальніцу, але выратаваць малое не ўдалося. Урач Руновіч уцёк у лес, каб «скончыць жыццё самагубствам». На другі дзень яго арыштавалі супрацоўнікі міліцыі.

Канец гэтай драмы адбыўся на мінулым тыдні. Генадзя Руновіча асудзілі на 5 гадоў і 6 месяцаў з адбыццём пакарання ў калоніі-пасяленні для асобаў, што здзейснілі злачынствы па неасцярожнасці. Акрамя гэтага, ён пазбаўлены права кіравання аўтамабілем на 5 гадоў і вымушаны будзе заплаціць 150 мільёнаў рублёў па іску пацярпелых бацькоў двухгадовага Сашы. На судзе няшчасныя бацькі заявілі, што гэтыя грошы яны перададуць у дзіцячыя дамы.

Страшнае не тое, што ўрач, які па абавязку павінен выратоўваць людзей, калечыць іх, а тое, што ў Алены, як яна прызналася на судзе, амаль восем гадоў не было дзяцей. І з'яўленне ў іх сям'і Сашкі стала, бадай, самай шчаслівай падзеяй у жыцці. На жаль, яна нядоўга цягнулася.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

ДЗЕНЬ БУДАЎНІКА

## Ёсць лепшыя!

ВІЛЕЙКА. На дзень будаўніка гарсавет і гарвыканком вызначылі лепшых спецыялістаў: галоўнага інжынера Будаўнічага дзяржпрадпрыемства №195 **Фёдара Смоліка**, дарожнага рабочага ДБУ-13 **Браніслава Апанасевіча**, машыніста ўкладчыка ДБУ-13 **Анатоля Кавалёва**, брыгадзіра муляраў Дзяржбудпрадпрыемства ПМК-185 **Васіля Гіля**, муляра-мантажніка МПМК-186 **Уладзіміра Занудзенку**, прараба МПМК-186 **Мікалая Юхнаўца**.

***Аддзел інфармацыі.***

ПАЖАРЫ

## Унучак узяў запалкі...

ВІЛЕЙКА. У вёсцы Грыгаркі Куранецкага сельсавета на 70-годдзе мясцовай жыхаркі Н. прыехалі дзеці з 3-гадовым унукам.

Пакуль дарослыя збіралі на стол, унучак узяў запалкі і ў хляву падпаліў сена. Будыніна згарэла.

***Вольга КІРЭЕВА.***

З НЯВЫДУМАНАГА

# Пярсцёнак для КДБ

***Гэтая гісторыя адбылася ў пачатку васьмідзесятых. У БДУ вучылася сціплая і прыгожая дзяўчына. Звалі яе Марыя. На апошнім курсе яна сустрэла свайго каханага. Хутка маладыя вырашылі згуляць вяселле. Пра гэтую шчаслівую падзею Марыя расказала сваёй бабулі, з якой жыла разам у Мінску. У старой жанчыны пацяклі слёзы радасці. Потым яна падышла да шафы, дастала шкатулку, з якой узяла залаты пярсцёнак з вялікім празрыстым каменем, і аддала яго ўнучцы. Бабуля сказала Марыі, каб яна занесла пярсцёнак у скупку, а на атрыманыя грошы купіла сабе самы прыгожы шлюбны ўбор.***

На другі дзень Марыя рушыла ў скупку. Скупшчык доўга круціў пярсцёнак, разглядаў яго ў лупу і час ад часу з зацікаўленасцю паглядаў на дзяўчыну. Потым ён выпісаў квітанцыю і запрасіў зайсці на другі дзень. З гэтым яна і вярнулася дадому.

Увечары ў дзверы пазванілі. На парозе стаялі ўчастковы міліцыянер у форме і тры мужчыны ў цывільным. Як потым высветлілася, супрацоўнікі КДБ. Прычына, па якой яны з'явіліся, крылася ў пярсцёнку. Камень з пярсцёнка аказаўся брыльянтам у 15 карат (1 карат = 0,2 грамаў). На тыя грошы ён каштаваў не адну сотню тысяч.

На пытанне, адкуль у Марыі гэты пярсцёнак, адказала бабуля. У 1917 годзе яна, тады яшчэ маладая і прыгожая дзяўчына, была заручаная з ротмістрам ад кавалерыі, але пасля рэвалюцыі яе жаніх знік у полымі грамадзянскай вайны.

У 1924 годзе ён, цяжка паранены, зноў з'явіўся ў Мінску, пражыў усяго некалькі дзён і памер. Ад яго і застаўся ў бабулі пярсцёнак і яшчэ фота. З гэтымі словамі яна дастала са шкатулкі пажаўцелы ад часу здымак. На ім у абдымку стаялі тры ваенныя: пасярэдзіне невялікі ў гімнасцёрцы, перацягнутай крыж–накрыж скуранымі рэмнямі, і бурцы з валявым позіркам мужчына, з аднаго боку вялізны матрос з маўзерам на баку, з другога – афіцэр у форме ротмістра кавалерыі.

Усю гэтую гісторыю супрацоўнікі КДБ уважліва выслухалі, запісалі, прачыталі ўголас і далі падпісацца бабулі і ўнучцы. Да пратакола далучылі і здымак. Потым ветліва запрасілі прабачэння і зніклі.

Праз два тыдні ў паштовай скрыні Марыя знайшла павестку з паведамленнем, што ёй і бабулі трэба з'явіцца ў КДБ. Там ім паведамілі, што мужчына ў цэнтры здымка не хто іншы, як Нестар Іванавіч Махно, а ротмістр быў яго блізкім памочнікам. Пярсцёнак канфіскавалі, а здымак падшылі да справы. Марыя і бабуля распісаліся ў акце канфіскацыі і вярнуліся дадому.

Уся гэтая гісторыя ніяк не адбілася на адносінах Марыі і яе жаніха, і праз некалькі тыдняў адбылося вяселле.

***Ігар КІЦІКАЎ.***

КРЫМІНАЛ

## Прадбачлівы жаніх

ВІЛЕЙКА. У вёску Лоўцавічы завітаў малады хлопец з Лагойскага раёна.

За лічаныя хвіліны нагрузіў машыну чужым дабром- пакраў курэй, авечак, кансервы. Калі яго затрымалі, патлумачыў, што вось-вось мусіць адбыцца ягонае вяселле. Краў, каб не было сорамна за пустыя сталы.

***Вольга КІРЭЕВА.***

ПРАВА

## Злачынцам у Беларусі ўжо выносіцца новы прыгавор — пажыццёвае зняволенне

Па найбольш цяжкіх злачынствах беларускія суды з некаторага часу ўжо выносяць новы прыгавор —пажыццёвае зняволенне. Гэтая норма была заканадаўча ўведзена ў Крымінальны кодэкс рэспублікі на пачатку гэтага года як альтэрнатыва пакаранню смерцю. Як паведамілі журналістам у Пракуратуры Беларусі, у прыватнасці, у Вярхоўным судзе ў касацыйнай інстанцыі не так даўно была разгледжана справа ў дачыненні да грамадзяніна, які ўчыніў забойства пры абцяжваючых абставінах і быў прыгавораны да пажыццёвага зняволення. Вярхоўны суд пакінуў без змянення вынесены прыгавор. Па словах намесніка Генеральнага пракурора Беларусі Аляксандра Іваноўскага, праблем з адбыццём пакарання гэтай катэгорыяй асоб пакуль не ўзнікае. Так, у адпаведнасці з вынесеным прыгаворам вышэйузгаданаму грамадзяніну першыя пяць гадоў пажыццёвага зняволення прызначана адбываць у турме.

***Вячаслаў БУДКЕВІЧ, БелаПАН.***

ВЫПУСКНІКІ

## За рулём толькі дзяўчаты

**АСТРАВЕЦ.** Нядаўна ў мясцовым вучэбна–вытворчым камбінаце адбыўся выпуск групы, навучэнцы якой пажадалі набыць правы на кіраванне легкавымі аўтамабілямі. З 29 чалавек толькі 5 былі мужчыны. Цікава, што правілы дарожнага руху здалі ўсе, а вось ваджэнне "завалілі" 6 асобаў прыгожай палавіны і 1 хлопец. Напэўна, у гэтай сітуацыі дзяўчаты не змаглі ўстаяць перад сур'ёзнасцю аўтаінспектараў.

На верасень плануецца набраць яшчэ адну групу. Ёсць падставы меркаваць, што і ў ёй таксама будзе большасць дзяўчат, бо ўмовамі залічэння ў групу цікавяцца выключна яны.

***Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.***

